

# Ніва



ГОД I. № 1 БЕЛАСТОК, 4 САКАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

## У НУМАРЫ





БЕЛАСТОК – МЕДЫЦЫНСКАЯ АКАДЭМІЯ

*— Калісь тут жыў магнат Браніцкі, а цяпер вучацца дзеці працоўных Беласточчыны.*

Фота: Ю. Лец.

# БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА

Ужо з самай раніцы, вялікі зал Таварыства Польска - Савецкай дружбы ў Беластоку гудзеў шматлікімі галасамі і гукамі музыкі.

Гэта на I-шы Арганізацыйны З'езд Беларускага Грамадска - Культурнага Таварыства з'ехаліся дэлегаты з усіх канцоў Беласточчыны а нават і з цэнтральнай Польшчы — Варшавы, Лодзі і іншых гарадоў.

У ўпрыгожанай беларускімі ўзорамі зале сабралося звыш 400 дэлегатаў і запрошаных гасцей.

З якім узрушэннем, як радасна было глядзець на гэтыя, упрыгожаныя важнасцю хвіліны, твары. Колькі сардэчнай радасці, колькі вялікіх думак, колькі энергіі і любві было ў вачах.

Здавалася, гэта ўвесь народ прышоў задэманстраваць перад усім светам сваю шчырую падзяку партыі і ўраду за ўмовы, якія стварыла беларускаму насельніцтву ў Польшчы.

Але гэта не ўвесь народ. Гэта толькі яго дэлегаты — прадстаўнікі вялікай і дружнай сям'і сельскагаспадарчых кааператываў, прадстаўнікі індывідуальных сельскіх гаспадарак, прадстаўнікі працоўнай інтэлігенцыі і студэнты.

У гэты дзень яны прынеслі думкі, жаданні звыш [illegible] тысяч нацыянальнай групы беларусаў Польшчы.

На З'езд прыбылі таксама сакратар Ваяводскага Камітэта Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі тав. Мар'ян Ксёнжэ, старшыня Прэзідыума Ваяводскай Рады Народовай, тав. Юзэф Шчэсняк, старшыня пасольскага клуба тав. Ядвіга Зубрыцкая, прадстаўнік Міністэрства Унутраных Спраў тав. Станіслаў Сосна, прадстаўнік Міністэрства Асветы, тав. Уладзімір Станкевіч.

Праз мікрафон паведамляюць аб набліжэнні адкрыцця З'езда. Змаўкае гоман і шорах, усе вочы кіруюцца ў напрамку прэзыдыяльнага стала.

Твар гарыць, сэрца моцна б'ецца, а на вочах заблішчэла шчырая сляза бясконцай радасці і ўдзячнасці.

Як-жа міла глядзяць упалыя вочы селяніна, падпярэзанага народным поясам, як прыгожа і радасна сядзіць на сваім месцы рабочы - тэкстыльшчык і настаўнік з вёскі і горада.

*(Працяг на стар. 4)*

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

**З вялікім хваляваннем аддаем у Вашыя рукі першы нумар „Нівы“.**

**Хочам, каб' „Ніва“ сталася Вашым блізкім і неадлучным сапраўдным прыяцелям, каб яна заўсёды магла добра дапамагчы Вам і дарадзіць.**

**Хочам штодзённа быць з Вамі, супольна перамагаць усялякія цяжкасці ў жыцці і працы, а таксама разам з Вамі цешыцца з дасягнутых поспехаў.**

**Таму звяртаемся да Вас, дарагія сябры, пішыце да „Нівы“ аб усіх справах якія Вас хвалююць, аб пераменах, якія заходзяць у Вашым жыцці і аб асягненнях у Вашай працы.**

**Пішыце, якія артыкулы Вам найбольш падабаюцца і аб тым, што Вы хацелі-б чытаць у „Ніве“.**

**Будзьце супольна з намі рэдактарамі нашага часопісу.**

ШТОТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА – КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА




**НА ПРАВО... НА ЛЕВО...**



*Сваёй каро́ўцы ледзь павалок...* *А кааператыўнамі; стадку — клок*

# СВІННЯ ПАД СЯДЛОМ

(Байка)

Парохваючы,
з ранішняй пары
Свіння хаўроння
па двары
хадзіла
Як і належыць,
двор яна парыла
І, надакучыўшы работай
аднастайнай,
Зайшла на стайню,
Дзе зноў не засталася
без заняткаў —
Наводзіць пачала
свае парадкі;
Між іншым чухацца
а штосьці стала
І на яе упала..
сядло
І што тут са свінёй
было!
Уявіла, што яна —
сапраўдны конь.
Рысак — агонь.
Давай з сядлом насіцца
Ды ўсім хваліцца.
Паспрабавала заіржаць,
Дыбка хацела нават
стаць
Настала ўжо
вячэрняя пара —
Свіня насілася
па ўсіх дварах;
Пакуль з яе сядло
не знялі
І ў хлеў нарэшце
не загналі
Так і ў людзей бывае часамі,
Не назіралі самі?

ЦІМОХ КАРАГА

Эпіграмы

**Згублены агроном**

*Мы згубілі агранома, —*
*Дзе падзеўся? — невядома.*
*Ледзь знайшлі усім сялом.*
*У паперах за сталом.*
*Быў ён выбрацца не ў сіле, —*
*Справаздачы завалілі.*

## ПЕРАБУДАВАЎСЯ

Кіраўнічы стыль ягоны
Значна зменены цяпер:
Болей ён не шле папер, —
Прывязаўся к тэлефону
Аднаго вось не змяняе:
Ён у вёсках не бывае

УЛ. КОРБАН.

## Бывала і так

*Чытаў гадзіну ён, ці болей,*
*Даклад аб шкодзе алкаголя.*
*А слоў яго не зразумець.*
*Бо языком варочаў ледзь*

В. ЛУК'ЯНЧЫК

## ЦЯЖКАЯ СІТУАЦЫЯ



— Вось жыццё настала: і дыхнуць нашаму брату не даюць.

— Паспрабуй толькі дыхнуць — і адразу скажуць, што п'яніца,

## НЕ КАЗКА, А БЫЛЬ



— Мама мне купіла шапку-невідзімку, а тата купіў боты-скараходы.

## Кемлівы

— Адразу відаць што вашы сталы і крэслы тапорнай работы.

— Няма нічога дзіўнага: гэтыя рэчы толькі тапаром і зроблены.

## Знайшоў выйсце

— Пальчатак у вас на паліцах няма, а попыт на іх вялікі Якія вы робіце захады?

— Павесілі ў вітрыне аб'яву, што пальчатак у продажы няма, і попыт на іх адразу спыніўся

## СПОСАБ

— Чаму вы так хутка бяжыце па лесвіцы?

— Мне шкодна бегаць па лесвіцы, і я хачу, каб яна хутчэй скончылася, — адказаў Бой - Жэленскі.

# ШТО ЗА МЕСЯЦ

(Беларуская народная песня)




*Што за месяц, што за ясны,*
*У ночы свеціць, а ў дзень не.*
*Што за міленькі дружочак,*
*Калі прыдзе, калі не.*

*Усе людзі, людзі кажуць,*
*Усе людзі гавараць:*
*„Сорам, дзеўка, сорам красна,*
*Позна з вечара гуляць".*

*Дзяўчынаньцы кепска стала,*
*Стала плакаць, ды ўздыхаць.*
*Хлапчынаньку шкода стала,*
*Стаў дзяўчыну суцяшаць:*

*„Не плач, дзеўка, не плач, красна,*
*Прыду ў госці да цябе,*
*Разгарыцца крой гарача,*
*Вазьму замуж за сябе".*

# АНЕКДОТЫ

Аднаго разу ўвечары, калі польская пісьменніца Ірэна Кржывіцкая сядзела разам з Бой-Жэленскім у кафэ, ён раптам пачаў грозна хмурыць бровы і нарэшце шапнуў ёй:

— Чаго гэты пан так заўзята пазірае на нас? Пойдзем адсюль, а інакш я вымушан буду сказаць яму пару слоў...

Субяседніца здзіўлена азірнулася. У кафэ нікога не было. Аказалася, што яны сядзелі насупраць вялікага люстэрка...

# КАРОТКІЯ ЖАРТЫ

Зніжаючы сабекошт прадукцыі, ніколі не знізіш аўтарытэту.

*

Калі крытыкаваць начальніка не адважваешся — крытыкуй сябе: падстаў дастаткова.

*

Ад празмернага карыстання робіцца тупым нават самае вострае слова.

*

Машыністка дакладвае начальніку: — Я поўнасцю надрукавала ваш даклад на 150 старонках... І якраз папера ўся скончылася.

*

Ён ушчэнт зняславіў, сябе тым, што любымі сродкамі імкнуўся да славы.

*

Пераходзячы вуліцу небяспечна заглядацца нават на плакаты правіл вулічнага руху.

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ ЧЫТАЧЫ!

Быў я ў рэдакцыі „Нівы" Пачуў там знаёмую гутарку і... успомніў беларускую бульбу

Эх! Не ўмеюць у нас гатаваць бульбы, праўда, варань у нас бульбу, ды так, што падобна яна да сапраўднай беларускай бульбы, як свіння да каня.

Сапраўдная бульба ў мундзіры, белая, рассыпістая; ад міскі да столі падносіцца пахучы пар. Бярэм пальцамі гарачую бульбіну, а яна патрэскалася, гатовая рассыпацца пяском. А тут побач на патэльні янтарныя скваркі. Вы яшчэ іх не прабавалі, а ўжо чуеце, як хрусцяць у роце!

Сядзіць гэтак чалавек над міскай з бульбай, на ілбу пот выступіў, нос пачырванеў ад задавальнення, а ён ведай толькі аплятае бульбу і просіць у гаспадыні падсыпаць яшчэ крыху.

Гаспадынька ахвотна згаджаецца, падае другую поўную міску, а на твары ў яе задавальненне, што госцю смакуе яе бульба.

Бульба — гэта не глупства, ды мы яе не дастаткова цэнім, а ў Палестыне за вагон бульбы атрымаеш вагон апельсінаў.

Выбач, дарагі чытач, што я раз'ехаўся наконт бульбы, а галоўнага яшчэ не сказаў.

На днях я чуў такую размову ў клубе Міжнароднай Прэсы і Кніжкі ў Беластоку.

— Друкуюць у газетах анонсы аб Ніве, а яе чамусьці не відаць — сказала дама, адпіваючы глыток кавы.

— Што-ж тут дзіўнага?

— Зіма, усё снегам замяло, схавалася Ніва пад белым пакрывалам — адказаў субяседнік.

— Ніва напэўна будзе якім - небудзь Вожыкам, — сатыра да й толькі — прыкінула дама.

— Вожыкі пазней заснулі пад снегам, а як мне вядома, сатыры не існуюць. Сатыр — гэта персанаж міфічны — выказаў кавалер сваю думку. — Мне здаецца, што мы гутарым пра розныя рэчы — вымавіла дама.

— Высокаадукаваныя людзі — як мы, заўсёды гутараць пра розныя рэчы адказаў кавалер.

Я вышаў з клуба пакідаючы інтэлігентных субяседнікаў прадаўжаць „культурную" гутарку.

Што-б яны не гаварылі, а нам народзіны першага нумара „Нівы" — вялікае свята.

Скажу вам па сакрэту — а я ўсё-ж такі маю невялікую прэтэнсію да галоўнага рэдактара, што з'яўленне першага нумара адбылося без урачыстасці. Добра было-б сарганізаваць у сувязі з гэтым у рэдакцыі прыём, на якім пачаставаць прысутных сапраўднай бульбай, каму са скваркамі каму з селядцом, хто як любіць. А можа не было прыёма і пачастунку таму, што з персанала рэдакцыі ніхто не ўмеў зварыць бульбы?

У кожным выпадку, гэта не перашкаджае ад шчырага сэрца павіншаваць чытачоў з першым нумарам „Нівы".

Дзядзька Лявонь

## НОВАЕ У ТЭХНІЦЫ НЕКАТОРЫХ ПОМ



— Гэй, ухнем!...